(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# «ДОБРАЯ ПАЛІТЫКА— ГЭТА МАСТАЦТВА»

**— Ці цісне на вас той праславуты цяжар улады?**

— Не. Але справа ў тым, што ў нас звычайна пачуццё ўлады ўспрымаецца як магчымасць вырашыць маёмасную, жыллёвую, пенсійную ці іншую праблему. Я ж катэгарычна за падзел улады. І калі ўзнімаецца пытанне, што не ўваходзіць у кампетэнцыю Вярхоўнага Савета, магу толькі звярнуцца да прадстаўнікоў адпаведнай улады, каб паспрабаваць іх пераканаць. Але не больш. І гэта часам выклікае крыўды... Я, канешне, магу паставіць у няёмкае становішча кіраўніка, які не выканаў маёй парады, але імкнуся ніколі гэтага не рабіць. Толькі калі ўжо несправядлівасць прэ цераз край, тады магу быць катэгарычным. У выпадку ж, калі магчымы кампрамісы, трэба даць разабрацца той уладзе, якая і павінна гэта рабіць.

**— Цяпер, праз тры гады, вы можаце ўрэшце назваць сябе палітыкам?**

— Не. Але я не лічу палітыкамі і многіх, хто тут так называўся і называецца па сённяшні дзень. Каб прафесіянальна займацца гэтай справай, трэба перш за ўсё мець адпаведную адукацыю ў галіне паліталогіі. У мяне стыхійная адукацыя ў гэтай галіне, а на інтуіцыі тут далёка не паедзеш. І калі я нават адчуваю сябе палітыкам, калі здаецца, што нешта людскае зрабіў — удалося, напрыклад, адстаяць у міжнародных перамовах нашы інтарэсы, пазіцыі, — пасля я пераконваюся, што выкарыстаў ардынарны прыём, які ўвайшоў у падручнікі...

Павінна быць сістэма ведаў. Мне вельмі спадабалася славацкая сістэма выхавання маладых палітыкаў. Калі я гаварыў са славацкімі кіраўнікамі, я бачыў, у якім асяроддзі яны знаходзяцца, — і, паверце мне, як былому выкладчыку, — я бачыў толькі разумныя вочы маладых, а не жаданне «служыць верай і праўдай» і г. д. У нас, на жаль, мы ўвесь час тасуем тую ж старую калоду. І заўважце: кадры для нашай палітыкі з захапленнем рыхтуюць тыя, пра якіх, як аказваецца, праўду пісалі — «цалкам адданыя справе камуністычнай партыі». Цяпер яны займаюцца адукацыяй моладзі. А некаторыя апалагеты самых цемрашальскіх поглядаў цяпер калі не кіраўнікі, дык намеснікі кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў. І скажу, што ў галіне грамадскіх навук засталіся тыя ж людзі і з тымі ж падыходамі — пераважна, дарэчы, дэмагогі.

**— Вы калісьці сказалі, што ў палітыцы не можа быць сяброў. Вы мелі на ўвазе любога палітыка ці сябе асабіста?**

— Хм... Няўжо я так ужо катэгарычна гаварыў?.. Ведаеце, добрая палітыка — гэта мастацтва. А ў мастацтве сяброўскія адносіны — рэдкасць. Вы мне назавіце палітыкаў, якія б добра сябравалі — гісторыя потым даказвае, што гэта было не так. Палітыка — унікальная сфера чалавечых адносін.

**— Прызнаюся, параўнанне палітыкі з мастацтвам даволі новае — ва ўсякім разе, для мяне. У мастака інструмент — папера альбо пэндзаль, а ў палітыка — народ...**

**Мне ж хочацца задаць вам такое пытанне: навошта вы ўступалі ў КПСС?**

— Я ўступаў па перакананнях. Гісторыя была такая. Я быў накіраваны з універсітэта прарэктарам у РТІ, і мне, безумоўна, гаварылі, што на такой пасадзе неабходна быць партыйным. Я тады лічыў, што сама камуністычная ідэя добрая, але ажыццяўленне было жорсткім і дрэнным. Я ўступаў у 1968 годзе, а за чатыры гады да гэтага ўступіў мой бацька, які вярнуўся са зняволення ў 1956 годзе. У мяне была з ім шчырая размова, і ён гаварыў так: ідэя добрая, але ўвесь час рознае жуллё дабіраецца да кіраўніцтва, і, каб такога не было, патрэбна больш сумленных камуністаў...

**— Як можа быць нармальнай ідэя, калі яе ажыццяўленне магчымае толькі праз дыктатуру?**

— Тады я ўсё ж думаў, што магчыма добрае выкананне гэтай музыкі, што проста дрэнныя музыканты. Але цяпер я перакананы, што сама ідэя ўтапічная, бо дазваляе стварыць структуры, якія перастаюць клапаціцца аб народзе і думаюць толькі аб сабе. Ды і перспектыва не лепшая: адны могуць і павінны развіваць здольнасці, працаваць, а другія могуць развіваць «патрэбнасці» і спажываць Пад такую ідэю ніколі не створыш людскую партыю, і калі пачаць зноў — будзе тое самае, толькі з іншымі людзьмі. Калі ўжо гаварыць пра гэта, дык зразумела, што тыя цяперашнія дэпутаты, што былі партыйнымі кіраўнікамі, маральны фактар, фактар сумлення не заўсёды ставяць на першае месца. Мне нават сорамна назіраць, як людзі адстойваюць свае ўласныя інтарэсы — у атрыманні кватэр, зямельных участкаў, будаўніцтве дач. Часам прачытаю матэрыял у газеце і чакаю, калі дэпутат падасць у суд за абразу — але не, пагаворыць, пагаворыць, падаваў-падаваў, — глядзіш, а нічога няма.

**— На сесіях гэтым дэпутатам вы любіце гаварыць: «Я падпарадкоўваюся большасці». Але не дадаяце — «на жаль» альбо «з радасцю».**

— Думаю, гэта і так зразумела. Заўважце, што я далёка не заўсёды галасую разам з большасцю. І яе прадстаўнікі, прыняўшы рашэнне, нярэдка абураюцца, чаму старшыня парламента не падзяляе іхніх поглядаў. Я ж лічу гэта з'явай нармальнай і ў пэўным сэнсе маральным учынкам — і ніколі, нават у шалёнай меншасці, не саромеюся захаваць свой пункт гледжання.

**— Пазбавіцца ад гэтай сумнай долі — падпарадкоўвацца большасці—можна было б шляхам увядзення прэзідэнцтва. Усведамляючы, што ў вас ёсць усе шанцы стаць першым прэзідэнтам, вы, тым не менш, дасюль адмаўлялі такі шлях для Беларусі. Чаму?**

— Прабачце, але я толькі раней быў катэгарычна супраць і, дарэчы, лічу, што рабіў правільна. Аналізуючы сітуацыю ў краінах былога СССР, я не заўважаў пераваг у краінах з прэзідэнцтвам — наадварот. Цяпер жа я не катэгарычна супраць, а, хутчэй, на нейтральнай пазіцыі.

Мы, відаць, прымем прэзідэнцтва разам з новай Канстытуцыяй, і я, шчыра кажучы, за тое, каб трошкі зацягнуць тэрмін яго ўвядзення. Але я супраць і таго, каб з'явіўся прэзідэнт — лялька для рытуальных працэдур. І калі я ўбачу, што справа ідзе да такога «прэзідэнта», я буду імкнуцца зноў стаць парламентарыем. Рытуальнае прэзідэнцтва можа быць у высокаразвітых краінах, дзе адладжаны механізм кіравання гаспадаркай, дзе існуе сістэмная падрыхтоўка кадраў з адпаведным заканадаўчым і выканаўчым забеспячэннем. А ў нас сабралі сімфанічны аркестр з аматараў, і ніякі дырыжор хутка не асвоіць з ім складаныя творы.

**— Калісь грузінскі філосаф Мераб Мамердашвілі сказаў: «Калі грузінскі народ выбера Гамсахурдыя, я буду супраць свайго народа». Ці маглі б вы сказаць падобнае? І як вы ставіцеся да фразы «народ не памыляецца»?**

— На жаль, і народ памыляецца, дакладней — і народ можна ўвесці ў зман. Успомніце хаця б гітлераўскія рэферэндумы... Палітыкі, інтэлігенцыя, сістэма адукацыі павінны клапаціцца аб высокім ўзроўні палітычнай, культурнай, нацыянальнай свядомасці. Калі такі ўзровень ёсць — такі народ немагчыма падмануць. У нас, на жаль, шмат дзе кіруе пачуццё страху, асабліва ў сельскай мясцовасці... Трэба ствараць такія ўмовы, каб народ свядома рабіў учынкі. І мы напярэдадні такіх падзей, бо я не ўпэўнены, што ў Вярхоўным Савеце ўдасца вырашыць некаторыя прынцыповыя пытанні канстытуцыйнага плана. Я думаю, дойдзе справа і да рэферэндуму па найбольш прынцыповых, грунтоўных пытаннях.

**— Але ўсё-такі: калі вы будзеце бачыць, што беларускі народ памыляецца, вы, як Старшыня Вярхоўнага Савета, будзеце разам са сваім народам ці папярэдзіце яго аб тым, што мы «не туды» ідзём?**

— Я думаю, мы да гэтага не дойдзем. І калі мы прыйдзем да рэферэндуму — яго вынікі не абмяркоўваюцца, ім падпарадкоўваюцца.

**— Хіба цяперашні састаў Вярхоўнага Савета вам не здаецца падманам народа?**

— Ні я, ні вы не маем права так гаварыць. Адбыліся найбольш дэмакратычныя выбары з усіх папярэдніх. Я думаю, што ўжо ў час наступных выбараў людзі змогуць лепш зарыентавацца, і перакананы — дэмагогаў будзе меней.

**— Апазіцыя, аднак, не такая лагодная ў адносінах да цяперашняга Вярхоўнага Савета. Зянон Пазьняк гаварыў і пісаў і пра вас шмат непрыемных рэчаў. Чаму вы яму не адказваеце — па палітычных меркаваннях, павагі да яго асобы альбо па якой-небудзь іншай прычыне?**

— Ведаеце, за пэўныя ўчынкі ім як асобай я не магу захапляцца. Пазьняк бачыць у многіх дэпутатаў і членаў урада пераважна злачынныя намеры — якая можа быць павага за такі падыход да справы? Я не лічу неабходным адказваць на яго словы аб тым, што я замаскіраваны партакрат. Я тут нарадзіўся, мяне многія ведаюць, і прыпісваць мне нейкія дзеянні на падставе абстрактных разважанняў, а не фактаў — несур'ёзна...

На жаль, пры ўсім яго таленце і адукаванасці, Пазьняк часам пераацэньвае сваё ўздзеянне на грамадскасць. І калі гэтая самая грамадскасць да некага ставіцца лепей, то Пазьняк лічыць, што такі чалавек уводзіць усіх у зман і ўвогуле ледзь не злачынец. Таму я не буду спрачацца з ім. Калі ж размова ідзе пра ідэі, там мы можам дыскутаваць — тым больш, што тут у нас з Пазьняком нямала агульнага.

**— У апошніх паездках вы часта гаварылі, што вельмі цэніце і паважаеце ўклад БНФ у адраджэнне мовы, культуры, самасвядомасці. Ці не прыніжаеце вы гэтым БНФ як палітычную арганізацыю?**

— Я не прыніжаю. Я не хачу далучацца да таго хору, які абражае БНФ за кантакты з замежжам. Калі нейкая аглядальніца «Советской Белоруссии» так ганіць Пазьняка, дык — не дацягвае яна і да дзясятай часткі таго Пазьняка. Адукаваны чалавек не можа без кантактаў — і калі яна піша, што недзе стварылі інстытут, каб нас тут заняволіць... ведаеце, толькі дурняў можна ў гэтым пераканаць, а не адукаваных людзей.

**— У адным з матэрыялаў у газеце «Свободные новости» я неяк пісаў, што Шушкевіч і Кебіч — затоеныя палітычныя саапернікі. Прапаную вам зараз гэта абвергнуць альбо пацвердзіць.**

— А я думаю, што бліжэйшы час яшчэ раз пацвердзіць, што і ў Кебіча, і ў мяне пачуццё адказнасці бярэ верх над іншымі пачуццямі. Відавочна, што мае падыходы і — часткова — Вярхоўнага Савета не заўсёды супадаюць з жаданнямі ўрада. І гэта нармальна! І трэба разам знаходзіць рашэнне ў інтарэсах дзяржавы. Калі адна група дзяржаўных дзеячаў мае з іншай розныя пункты гледжання — чаму ж тут саперніцтва? Гэта, па-мойму, нармальная з'ява, пошук ісціны. Лічу Вячаслава Францавіча выключна таленавітым і працавітым чалавекам і з задавальненнем з ім працую.

**— Пасля такога адказу дарэмна вы гаворыце пра сябе, што вы не палітык... Аднак наступнае пытанне. Вы нязменна падкрэсліваеце свае дружалюбныя адносіны да Расіі. Тым не менш, у сваім навагоднім звароце вы гаварылі: «Нас прыгняталі апошнія два стагоддзі». Зразумела, хто. Як вы ставіцеся да Расіі не як палітык, а як беларускі інтэлігент — у геапалітычным, філасофскім сэнсе?**

— Ведаеце, я дам банальны, трывіяльны адказ: ёсць народ і ёсць урад. У сучасны момант у значнай ступені палітыку Расійскай дзяржавы вызначаюць дэмакратычна абраныя парламент і прэзідэнт. Таму на сённяшні дзень я ў значнай ступені атаясамліваю народ, урад і парламент. І ў гэтым сэнсе я толькі станоўча адношуся да Расіі. У нас з рускімі падобныя характары, увогуле шмат агульных падыходаў — не можа быць ніякага процістаяння. Няўжо ў нас дрэнна адчуваюць сябе рускія, няўжо беларусам дрэнна ў Расіі?

Але калі размова ідзе аб расійскіх дзяржаўных інтарэсах, і пэўныя колы расійскіх дзеячаў лічаць, што Беларусь павінна быць нейкім прыдаткам, дык я да такіх людзей і ідэй стаўлюся вельмі адмоўна. Імперскія амбіцыі мне ніколі не падабаліся, і я хацеў бы, каб мы будавалі нармальныя дэмакратычныя адносіны па выпрацаваных светам прынцыпах.

**— Зразумела, што сэнс палітыкі —з усімі дзяржавамі падтрымліваць нармальныя адносіны. Аднак арыентацыя можа быць не толькі на палітычным узроўні, але і на культурным, маральным. Ці не прыйдзецца калі-небудзь у гісторыі больш адназначна выбіраць арыенціры?**

— Гэта, прабачце, такое ж пытанне, як: «Што выбраць — камунізм ці капіталізм?» Няма гэтай альтэрнатывы, я падкрэсліваю. Нам не трэба выбіраць, мы не бачым нідзе сваіх патэнцыяльных ворагаў. Не існуе праблемы выбару. З той жа Расіяй мы так зніталаваныя, што прыйдзецца доўга-доўга даводзіць да ладу нашы адносіны, пераводзіць іх на чыста прававую аснову.

**— Ці ёсць у абслугоўваючых вас структурах людзі, якія ствараюць ваш імідж?**

— Не, няма. У Вярхоўным Савеце ёсць структуры, чый абавязак — правільна інфармаваць грамадскасць аб палітыцы і рашэннях Вярхоўнага Савета, яго прэзідыума і камісій. Гэта служба павінна клапаціцца не аб асобах, а аб ідэях, канцэпцыях. Што да мяне асабіста, то аб тым, у чым я перакананы, магу клапаціцца толькі я сам.

**— Але ж вы не толькі Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, а яшчэ і кіраўнік дзяржавы.**

— ...Я не кіраўнік дзяржавы, а вышэйшая службовая асоба Рэспублікі Беларусь — так запісана ў нашай дзеючай Канстытуцыі.

**— Дакладней — першая асоба.**

— Так, менавіта так.

**— Рэкламныя ролікі ёсць у Мітэрана, Клінтана...**

— У мяне няма і пакуль што не прагназуецца. Я маю, праўда, некалькі падарункаў — відэакасет, дзе запісаны мае выступленні за мяжой. Мы можам нават паглядзець іх зараз, бо дома ў мяне відэа няма, а тут ёсць. Не буду крывадушным: мне прыемна час ад часу іх прагледзець: гэта і кантроль — ці не раблю я памылак пры публічных выступленнях. Пакуль што гэтыя «ролікі» мяне ў роспач не ўводзяць.

**— Вы неяк сцвярджалі, што ваша сям'я не ў вялікім захапленні ад вашай цяперашняй работы. У чым і як гэта праяўляецца? І як, па-вашаму, ці стаў бы прэзідэнтам ЗША Біл Клінтан, калі б заявіў, што яго жонка не падзяляе яго палітычных амбіцый?**

— Вы параўноўваеце непараўнальныя рэчы. У ЗША дзвесці гадоў назад была прынята канстытуцыя, яны ў дэмакратыі раслі. У нас жа зараз пераходны перыяд, а ў час пераходнага перыяду рознагалоссі нават у адной сям'і — нармальная з'ява, і я нічога дзіўнага ў гэтым не бачу.

Ёсць пытанні, дзе ў нас ёсць разыходжанні. Мая жонка выхавана ў вайсковым асяроддзі — Кастрама, Омск, Масква — і мае іншыя падыходы да шэрагу праблем.

Жонка займаецца грамадскай дзейнасцю ў сэнсе міласэрнасці, забеспячэння дзяцей. Я адразу падкрэслю, што ў яе паездках у замежжа не было ніякага фінансавання з боку якіх-небудзь дзяржаўных або парламенцкіх структур. Так што ў сферы грамадскай дзейнасці яна займаецца тым, чым лагічна займацца, і гэта ідзе на карысць Беларусі.

**— Ці былі вы ахрышчаны?**

— Я думаю, што быў патаемна ахрышчаны сваёй бабкай, але бясспрэчны і той факт, што мяне не хрысцілі ў царкве ці касцёле.

**— Наколькі рэальна гэтае ваша «я думаю»?**

— На 100 працэнтаў, бо мая бабка жыла і памерла вельмі перакананай каталічкай. У свой час, калі яна выйшла замуж за майго праваслаўнага дзеда, яна нават «перакувала» яго, і яны бралі шлюб у касцёле. Гэта добра вядомая гісторыя нашага дому.

Увогуле, я зараз імкнуся ва ўсім гэтым разабрацца — знайшоў ужо запісы ў царкоўных кнігах, але я яшчэ не падрыхтаваны, каб больш поўна адказаць вам на такое пытанне.

**— А як вы сябе самі вызначаеце?**

— Я абмежаваўся б такім адказам: я вельмі паважаю хрысціянскую мараль і хрысціянскія падыходы, дарэчы, на іх падставе і быў сфармуляваны Кодэкс будаўніка камунізму, які ўсе ў нас паўтаралі, але не ўсе выконвалі.

**Размову вёў Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

# АПЕРАЦЫЯ «БАРЖОМІ»

## АБ АМАЛЬ ДЭТЭКТЫЎНЫХ ПАДЗЕЯХ ВАКОЛ ЗВЫЧАЙНАЙ МІНЕРАЛЬНАЙ ВАДЫ І ІНШЫХ «ДАСЯГНЕННЯХ» НАШАГА ГАНДЛЮ

«Баржомі» — мінералка вядомая. І таму можна было толькі вітаць кантакты паміж гродзенскай аптовай базай «Бакалея» і заводам у Грузіі, дзе гэтая вада выпрацоўваецца. У выніку 8 чэрвеня ў Гродна адгружаюць 48,8 тысячы бутэлек, а 16 чэрвеня завод прадстаўляе базе плацежнае патрабаванне на суму 464.851 рубель 76 капеек, у тым ліку 209.840 рублёў — за ваду, 246.030 — за тару і 8.981 рубель 76 капеек за транспартныя паслугі.

Здавалася б, усе фінансавыя пытанні абгаворaны і справа за галоўным гандлем. Аднак тут пачынаецца тое, што, мякка кажучы, зусім не стасуецца з цвярозым сэнсам. 18 чэрвеня дырэктар базы «Бакалея» М. Сіцко заключае дагавор з маладзёжным «Бізнес-клубам» (г. Горы, Грузія). У адпаведнасці з гэтым дакументам клуб выступае ў якасці пастаўшчыка... ужо адгружанай мінеральнай вады. Прычым, даверанасць на права заключэння дагавора ўпаўнаважаны ад «Бізнес-клуба» Ш. Чыкладзе атрымаў 19 чэрвеня, на наступны дзень пасля таго, як здзелка была ўжо афармлена.

Адразу падкрэслім: яе ўмовы значна адрозніваюцца ад тых, на якіх база заключыла кантракт з налівачным заводам горада Баржомі. Мяркуйце самі. Завод запрасіў за кожную бутэльку мінералкі (без кошту тары) 4 рублі 30 капеек. А вось у дагаворы паміж базай і «Бізнес-клубам» цана на гэтую ж прадукцыю падскочыла ўжо да 13 рублёў, ну а рэалізавалі яе ў гандлёвай сетцы за 14 рублёў 30 капеек.

Такім чынам, ёсць адна партыя мінеральнай вады і два зусім розныя дагаворы наконт яе рэалізацыі. У сувязі з гэтым узнікаюць заканамерныя пытанні. Па-першае, навошта спатрэбілася кіраўніцтву базы ісці на кантакт з «Бізнес-клубам». І па-другое, ці можна не парушыць ніводны з двух зусім не аднолькавых дагавораў? Аказваецца, можна.

Адзначым галоўнае: дырэктар базы «Бакалея» М. Сіцко не мог не ведаць, што «Бізнес-клуб» не з'яўляецца ні вытворцам гэтай мінеральнай вады, ні пасрэднікам у яе рэалізацыі, паколькі і пастаўка прадукцыі, і афармленне дакументаў на яе адпраўку ў Гродна, і адпаведныя разлікі рабіліся напрамую з налівачным заводам горада Баржомі. І тым не менш М. Сіцко падпісаў гэты, мякка кажучы, парадаксальны дагавор з «Бізнес-клубам». З якой жа мэтай?

Як высветліла абласная дзяржгандальінспекцыя, атрыманыя ад завышэння цаны на мінваду грошы па просьбе кіраўніцтва «Бізнес-клуба» і ўказанню М. Сіцко былі пералічаны падстаўным асобам. Хто ж яны? А. Панасевіч — медсястра гарбальніцы, Р. Бараноўскі нідзе не працуе і нават не прапісаны ў абласным цэнтры. Ніякіх адносін да пастаўкі мінеральнай вады з горада Баржомі яны не мелі. Аднак які ж клопат праявіла кіраўніцтва базы аб гэтых асобах! 7 ліпеня задоўга да таго, як база разлічылася з налівачным заводам горада Баржомі, на рахункі Панаеевіч і Бараноўскага ў ашчадкасе пералічваюць 302.832 рублі і 84 капейкі. Усю гэту суму яны на наступны ж дзень без усякіх праблем атрымліваюць (хоць у той перыяд, як памятаеце, была вельмі складаная сітуацыя з наяўнымі грашамі і дзейнічалі пэўныя абмежаванні на іх выдачу кліентам ашчадбанка) і перадаюць прадстаўніку «Бізнес-клуба» Чыкладзе.

Дарэчы, гэтай гісторыяй зацікавілася абласное ўпраўленне ўнутраных спраў, і некалькі пазней мы, магчыма, зможам больш падрабязна пазнаёміць чытачоў з яе дэталямі і дзеючымі асобамі. Пакуль жа паведамім яшчэ некалькі фактаў, якія красамоўна сведчаць аб стылі дзейнасці кіраўніцтва базы «Бакалея» і існуючых тут парадках.

Возьмем, напрыклад, спіртныя напіткі. Атаварыць гэтым дэфіцытам талоны ў Гродна — праблема з праблем. І ў той жа час, як пераканаліся спецыялісты абласной дзяржгандальінспекцыі, кіраўніцтва базы не шкадуе фондавага спіртнога розным прадпрыемствам і арганізацыям — гродзенскаму Дому навукі і тэхнікі, мінскаму МП «Сапа», гродзенскаму МП «Данка».

Таму ж МП «Сапа» па ўказанню дырэктара базы М. Сіцко адпусцілі 1.500 кілаграмаў цукру быццам бы для вырашэння вытворчых патрэб базы. Таксама «аб вытворчых інтарэсах», відаць, клапаціўся і в. а. намесніка дырэктара базы П. Бараноўскі, дазваляючы продаж трох мяшкоў цукру работніку чыгуначнага вакзала А. Гаўраш.

Аналагічна і з тытунёвымі вырабамі. Па ўказанню таго ж П. Бараноўскага малому прадпрыемству «Лігія» (арганізававаму пры сталовай, якая размешчана ў адміністрацыйным будынку базы «Бакалея») было адпушчана 4.800 пачкаў «Прымы» на суму 60 тысяч 480 рублёў. Як высветлілася, дырэктар гэтага МП С. Глушакоў усе цыгарэты адразу ж оптам рэалізаваў за наяўны разлік невядомай прыватнай асобе. Заўважце: ніякіх фондаў на атрыманне тытунёвых вырабаў з базы «Бакалея» МП «Лігія» не мае. Больш таго, у той час сталовая знаходзілася на рамонце. І тым не менш Глушакову былі створаны выдатныя ўмовы для бізнесу. Дарэчы, у верасні «Лігія» аналагічным чынам атрымала з базы 14,4 тысячы пачкаў «Астры», якія і былі рэалізаваны без якіх бы там ні было талонаў ці абмежаванняў у выглядзе нормы продажу ў адны рукі.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# «НАВАГОДНІ КІРМАШ»

**БРЭСТ. Першымі ў горадзе на «Навагодні кірмаш» брастаўчан запрасілі члены абласной станцыі юннатаў. Ва ўласным кіёску яны пачалі распрадажу розных вырабаў і прыродных матэрыялаў, з якіх з густам складзены навагоднія кампазіцыі. Дзеці спадзяюцца, што ў дамах гараджан імі можна будзе замяніць традыцыйныя ёлкі. А гэта значыць, што хоць нейкая частка лясных красунь не падвергнецца бязлітаснай высечцы.**

**Як сказала дырэктар станцыі Марыя Зданевіч, з адкрыццём уласнага гандлёвага пункта паявілася магчымасць прадаваць усякую жыўнасць, расліны і ўраджай, вырашчаныя клапатлівымі рукамі дзяцей. Прычым па даволі прымальных цэнах.**

**(БЕЛІНФАРМ).**

ТВАЁ СЛОВА, ЧЫТАЧ!

## Ушаноўванне... зняважай

Прачыталі ў нумары за 6 кастрычніка заметку «Падпіска ў падарунак» і захацелася падзяліцца ўражаннем, якое мы, пажылыя людзі г. Верхнядзвінска, атрымалі ад свайго ўшаноўвання.

Па ўказанню зверху мясцовыя ўлады таксама вырашылі адзначыць гэты дзень. Запрасілі пажылых людзей у раённы Дом культуры. Там перад намі выступіў намеснік старшыні райвыканкома У. Якаўлеў. У сваёй прамове ён нават не ведаў, як гэта свята называецца. Потым слова ўзяла І. Марачкоўская, загадчык аддзела па працы, сацыяльнай абароне і занятасці насельніцтва. Затым у наш гонар работнікамі Дома культуры быў дадзены невялікі канцэрт.

А потым пачалося самае зневажальнае для нас, пажылых людзей. Старшыня раённага Савета ветэранаў пачаў выдаваць талоны на гарэлку. Гарэлкі завезлі мала, пачалася таўкатня, як на Хадынскім полі, усім не хапіла. Людзі абураліся, а работнікі прылаўка частку гарэлкі прыхавалі. Адказных жа за гэта мерапрыемства раптам не стала. Сорамна было глядзець на такую зняважу пажылых людзей. У нас умеюць толькі зневажаць састарэлых, а не паважаць. Калі б не рашэнне ААН, то ніхто ў нашай краіне і не ўспомніў бы пра нас, пажылых людзей. На нашу думку, лепш зусім не адзначаць гэты дзень, чым цярпець такую зняважу.

**ТВАРАНОВІЧ, КІСЯЛЁВА, ПЯТРОВІЧ, ЮХНЕВІЧ і іншыя пенсіянеры г. Верхнядзвінска.**

## Адгукніцеся: на вас наша надзея!

Звярнуцца да вас мяне прымусілі складаныя абставіны жыцця. Я разам са сваёй сям'ёй жыву ў г. Ветка Гомельскай вобласці. Гэта зона наступнага адсялення. Калі-небудзь адселяць і нас, але ж калі гэта ўсё будзе пры сённяшнім стане будаўніцтва? Мы—гэта я, мая жонка і трое непаўналетніх дзяцей. Паверце, цяжка бачыць і ўяўляць сабе тое, што кожны дзень знаходжання тут не дабаўляе, а забірае здароўе ў маіх дзяцей. Не радуе нават і тая вялікая цудоўная кватэра, у якой мы жывём.

Таму я хачу праз вашу газету звярнуцца да ўсіх чытачоў, якія жывуць у экалагічна незабруджаных месцах Брэсцкай, Мінскай і Гродзенскай абласцей. Калі дзе-небудзь маюць магчымасць прыняць нас з выдзяленнем кватэры ці дома, няхай напішуць мне па адрасу: **247120, Гомельская вобласць, г. Ветка. Грамыку Валерыю Васільевічу (да запатрабавання).**

**Браты і сёстры маёй Беларусі, на вас мая надзея!**

**Валерый ГРАМЫКА.**

**ДЛЯ ДАВЕДКІ: я—рэвізор (па дыплому — бухгалтар-эканаміст, жонка—настаўніца).**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

## «НОВАЯ ВЕРСІЯ СВАРКІ ІВАНА ІВАНАВІЧА З ІВАНАМ НІЧЫПАРАВІЧАМ: ІВАН НІЧЫПАРАВІЧ ЗВОЛЬНЕНЫ»

Зэльвенскі райвыканком без усякіх на тое падстаў звольніў загадчыка рана Мікалая Ярмоліка,— так у некалькіх словах выглядае сутнасць карэспандэнцыі, надрукаванай у «Звяздзе»» 21 лістапада г. г. (№ 234). А 30 лістапада адбылося паўторнае судовае пасяджэнне нарсуда Ваўкавыскага раёна, дзе разглядалася грамадзянская справа па іску Ярмоліка М. Д. да выканкома Зэльвенскага райсавета аб аднаўленні на рабоце. Першы суд, нагадаю, станоўчых вынікаў Мікалаю Дзмітрыевічу не прынёс. Яшчэ нагадаю: падставай для звальнення Ярмоліка былі вымова і заўвага за нібыта хібы ў рабоце.

І вось як кваліфікаваў іх суд: «У рашэнні не ўказана канкрэтна, што пастаўлена ў віну Ярмоліку М. Д.» (гэта пра першую вымову).

«Як і раней, не ўказаны канкрэтны праступак, не адзначана ў рашэнні... у чым выявілася сістэматычнае невыкананне службовых абавязкаў...» (гэта пра заўвагу). Такім чынам, высвятляецца, што справа шытая белымі ніткамі.

Не буду спыняцца на падрабязнасцях, адзначу, што ўсе абвінавачанні супраць Мікалая Ярмоліка з дапамогай сведак і дакументаў абвергнуты.

З асаблівым задавальненнем цытую канчатковае рашэнне суда: «Аднавіць Ярмоліка Мікалая Дзмітрыевіча на пасадзе загадчыка раённага аддзела народнай адукацыі Зэльвенскага райвыканкома. Спагнаць з Зэльвенскага райвыканкома на карысць Ярмоліка М. Д. розніцу ў зарплаце за час вымушанага прагулу ў памеры 14.177 рублёў 70 капеек. З яго ж спагнаць дзяржпошліну ў даход дзяржавы ў 1.420 рублёў. З яго ж спагнаць на карысць Ярмоліка М. Д. 100 рублёў судовых выдаткаў. Рашэнне ў частцы аднаўлення на рабоце падлягае неадкладнаму (падкрэслю.—С. Ш.) выкананню...»

І ўсё, як гаворыцца, было б выдатна і мы ўсе парадаваліся б, што справядлівасць на гэтым свеце такі ёсць. А толькі неадкладнага аднаўлення на рабоце пакуль што не атрымалася. Мікалай Дзмітрыевіч працягвае працаваць настаўнікам, а рашэнне суда не выканана. Кажуць, трэба збіраць выканком. Гэта мерапрыемства мяркуюць арганізаваць 14 снежня. Мікалаю Дзмітрыевічу тлумачаць: проста так вас аднавіць не можам, трэба па закону. Хочацца спытаць — а па якому закону вы Ярмоліка звальнялі? Карацей кажучы, судовае рашэнне не выконваецца без усякіх на тое падстаў. У рэшце рэшт, сабраць выканком можна хутка. Было б жаданне. Верагодна, яго няма. Я вельмі разумею старшыню райвыканкома Міхаіла Паўлавіча Дзянішчыка, але перад законам, як і ў лазні, усе роўныя.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# ІЗНОЎ ГАЛАНДЦЫ...

ГОМЕЛЬ. Як мы паведамлялі ўжо, летась тут была адкрыта беларуска-галандская паліклініка. У ёй ужо прайшлі лячэнне звыш 8 тысяч чалавек, праведзена 307 тысяч ультрагукавых, эндаскапічных і іншых клінічных даследаванняў.

Галандцы на гэтым не спыніліся, а працягваюць далей ажыццяўляць аздараўленчую праграму дапамогі людзям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай бяды. Яны з'явіліся ініцыятарамі стварэння ў Гомелі сумеснага медыцынскага інфармацыйнага цэнтра здароўя, мэта якога — кансультацыя па пражыванню людзей на тэрыторыях з рознай ступенню забруджвання радыенуклідамі. Учора адбылося ўрачыстае адкрыццё цэнтра. У ім прынялі ўдзел пасол Нідэрландаў у Беларусі Я. В. ван Дусбург, старшыні Гомельскага абласнога і гарадскога Саветаў М. Вайцянкоў і С. Гальдадзе.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

# «Антычарнобыль» развівае дзейнасць



Больш за два мільёны жыхароў Беларусі жывуць на тэрыторыі, якая забруджана ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Стан іх здароўя, праблемы лячэння і прафілактыкі знаходзяцца ў цэнтры ўвагі калектыву навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны.

Тут працуюць дыспансер і клініка, куды звяртаюцца хворыя ўсіх узростаў, а таксама людзі, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі наступстваў катастрофы. На гэтай жа аснове створаны цэнтр па радыяцыйнай абароне дзяцей «Антычарнобыль».

Значную дапамогу беларускім медыкам аказваюць іх замежныя калегі.

У гэтыя дні ў дыспансеры плённа працуе група медыкаў з Кітая, якія дасканала валодаюць традыцыйнымі ўсходнімі прыёмамі лячэння. Кітайскія ўрачы прапануюць сеансы іглarэфлексатэрапіі, масажа, кансультацый, забяспечваюць лекамі, выробленымі з раслін далёкай краіны.

**На здымках:** ◆ Аздараўленчыя заняткі ў басейне клінікі; ◆ Сярод валожынскай дзятвы, якая рэгулярна праходзіць агляд у дыспансеры, вучань трэцяга класа **Андрэй АНУШЭЎСКІ**; ◆ Пасябравалі прафесар **Юй МЕАЮНЬ** з Пекіна і маленькая **Жанна ПІНЧУК** з Брагіна.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

